МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 8 (160)
жнівень 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### БЕЛАРУСКІ СІБІРАК ХОЧА ЗРАБІЦЬ ПАБРАЦІМАМІ ВІЦЕБСК І ІРКУЦК

Руплівец беларускага руху з Сібіры Алег Рудакоў апантаны ідэяй надаць статус гарадоў-пабрацімаў Іркуцку і Віцебску.

*Чытайце на стар. 4*

### БАЙКАЛ – ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ УСЯГО СВЕТУ

Сонечную Беларусь аддзяляюць ад суровай Сібіры тысячы вёрст, гадзінныя і кліматычныя паясы, мова і звычаі, а ў апошнія гады – яшчэ і дзяржаўныя межы. І тым не менш, гэтыя далёкія і непадобныя адзін на аднаго краі здаўна, ледзь не паўтысячы гадоў, звязаныя агульнай крывёю.

*Чытайце на стар. 6*

### У ЛОНДАНЕ З НАЙВЫШЭЙШЫХ ПАЛІЦ ЗДЫМАЮЦЬ ПАДРУЧНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Гутарка з Ігарам Івановым, сакратаром апякунскай рады Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны.

*Чытайце на стар. 7*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## ЗГУРТАВАННЮ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ – 25 ГАДОЎ!



Дарагія сябры!

10 верасня Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" адзначае цудоўную дату - сваё 25-годдзе! Многія з вас памятаюць правядзенне ўстаноўчай канферэнцыі ў 1990-м годзе і атмасферу, што тады панавала. Гэта быў час Адраджэння, час спадзеваў і веры, час вяртання нацыянальнай годнасці. Думка пра яднанне беларусаў, параскіданых воляй лёсу па прасторах усяго свету, лунала ў паветры маладой дзяржавы, што здабывала сваю незалежнасць. І, падхапіўшы гэтую думку, пачынальнікі Згуртавання з гарачым імпэтам узяліся за гэтую вялікую справу.

Успаміны пра Першы з'езд беларусаў свету дагэтуль кранаюць сэрцы многіх - тады багата беларусаў упершыню за многія дзесяцігоддзі вярнуліся на Радзіму. З усіх куткоў планеты з'ехаліся яны, каб сустрэцца разам на сваёй зямлі.

Сёння Згуртаванне яднае беларусаў і беларускія арганізацыі з больш як 25 краінаў свету, дапамагае ім знаходзіць і падтрымліваць кантакты адно з адным, руціцца пра захаванне эмігрантамі сваёй беларускай ідэнтычнасці і тут, у Беларусі, робіць вялікія намаганні, каб беларусы і на сваёй Радзіме адчувалі гэтую ідэнтычнасць і ганарыліся сваёй нацыянальнай прыналежнасцю.

Шаноўныя сябры! Мы ўсіх вас шчыра віншуем з гэтым агульным для ўсіх нас святам! Згуртаванне ўжо мае багатую гісторыю, і шмат яшчэ ў нас наперадзе! І новую гісторыю нам ствараць разам!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", што нарадзіліся ў верасні: **Алену Анісім, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Коласа, Алеся Пашкевіча, Змітра Саладуху** (Беларусь) і **Вячку Целеша** (Латвія). Зычым шаноўным імяніннікам здзяйснення мараў, трывалага здароўя, творчых здабыткаў і радасці ад кожнага дня!

5 верасня спаўняецца 35 гадоў **Ірыне Кузьміч** (Латвія), а 16 верасня 65-годдзе сустракае **Георгій Казак** (Расія). Шчыра віншуем дарагіх юбіляраў з гэтымі датамі і зычым аптымізму, сонечнага настрою, моцнага здароўя, плёну ва ўсіх пачынаннях!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ВЕРАСЕНЬ 2015 ГОДА

5 верасня – 175 гадоў таму ў в. Балванішкі (цяпер в. Зялёны Бор Ашмянскага р-на) нарадзіўся Зыгмунт Мінейка (1840–1925), удзельнік паўстання 1863–1864 гг., беларускі і грэчаскі грамадскі дзеяч, этнограф, калекцыянер, мемуарыст.

6 верасня – 20 гадоў таму памёр Павел Масленікаў (1914–1995), жывапісец, тэатральны мастак, педагог.

7 верасня – Дзень беларускага пісьменства і друку.

8 верасня (ці 8 лістапада) – 60 гадоў таму памёр Уладзіслаў Паўлюкоўскі (1895–1955), паэт, празаік, этнограф, мастак, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

10 верасня – 25 гадоў таму, у 1990-м, у Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

10 верасня – Памёр Міхась Саўка (1927–1990), беларускі і бельгійскі мастак-рэстаўратар, мастацтвазнавец, археолаг.

14 верасня – 15 гадоў таму ў г. Сомерсэт (Нью-Джэрсі, ЗША) памерла Галіна Русак (дзяв. Родзька; 1930–2000), мастачка, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

17 верасня – 155 гадоў таму ў в. Збочна (цяпер Слонімскі р-н) нарадзіўся Кандрат Лейка (1860–1921), пісьменнік, педагог.

20 верасня – 65 гадоў таму, у 1950-м, у Нью-Ёрку (ЗША) выйшаў першы нумар газеты “Беларус”, выдавец Беларуска-амерыканскае задзіночанне. Першы рэдактар Леанід Галяк.

21 верасня – 30 гадоў таму памёр Міхась Лынькоў (1899–1975), празаік, літаратуразнавец, акадэмік. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

22 верасня – 165 гадоў таму памёр Францішак Дзеружынскі (1779–1850), рэлігійны дзеяч, адзін з пачынальнікаў вышэйшай адукацыйнай сістэмы ў ЗША.

22 верасня – 30 гадоў таму памёр Павел Крынчык (1898–1975), грамадска-культурны дзеяч, актывіст Таварыства беларускай школы.

23 верасня – 80 гадоў таму ў савецкай турме ва Уфе (Расея) памёр Лявон Заяц (1890–1935), палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Даўгінава, цяпер Вілейскі р-н (сакавік 1890 г.).

25 верасня – 50 гадоў таму ў г. Гільдэсгайм (Ніжняя Саксонія, Нямеччына) памёр Міхась Маскалік (1903–1965) грэка-каталіцкі святар, навуковец.

29 верасня – 135 гадоў таму ў Полацку нарадзіўся Сяргей Сахараў (1880–1954), культурны дзеяч, фалькларыст, этнограф, педагог.

## “ОЛЬСЫ” І ДЫПЛАМАТЫ, ВАЙЦЮШКЕВІЧ І ПАМЯРАНЦАЎ – ХТО ЯШЧЭ ГАСЦЯВАЎ У ЛЕПЕЛЬСКАГА ЦМОКА?

Фестываль міфалогіі “У госці да Лепельскага Цмока” прайшоў 8 жніўня ўжо другі раз. Кампанія “Будзьма беларусамі!”, сталы партнёр фестывалю, разам з гуртом сярэднявечнай музыкі “Стары Ольса” паспрабавала разбудзіць Цмока рытмамі яго маладосці.



“У госці да Лепельскага Цмока” кампанія “Будзьма беларусамі!” ездзіць з вялікай радасцю, бо тэма нацыянальнага і лакальнага брэндынгу на глебе беларускай культуры для кампаніі важная. Некалькі гадоў таму менавіта “Будзьма!” прэзентавала грамадскасці праект “Краіна цмокаў” з тым, каб абудзіць цікавасць да роднай гісторыі і міфалогіі. Ці маглі тады арганізатары ўявіць, што за гэты час у Мінску з’явіцца баскетбольная каманда “Цмокі-Мінск”, у Лепелі будзе ўсталяваны помнік цмоку, а “Будзьма!” стане партнёрам унікальнага цмачынага фестывалю!

“У госці да Лепельскага цмока” запрашалі арганізатары на бераг возера не толькі жыхароў Беларусі. Пра заморскага сваяка беларускага Цмока – кітайскага Дракона – і яго месца ў традыцыйнай культуры расказалі ў спецыяльнай прэзентацыі госці з Кітая.

Перадаць прывітанне “сваім цмокам” паабяцалі прадстаўнікі дыпкорпусаў Латвіі, Польшчы, Славакіі ды Расіі. Кіраўнік Нацыянальнага агенцтва па турызме Грыгорый Памяранцаў шчыра не хаваў свайго здзіўлення ад таго, што лепельцы не пабаяліся выкарыстоўваць у якасці сімвала горада і рэгіёна “монстра”, і вельмі спадзяваўся пазнаёміцца з ім на фестывалі асабіста.

Музычнымі гасцямі Лепельскага Цмока сёлета сталі файныя беларускія гурты – Naka, “Рокаш”, Vuraj, капэла Алеся Лася ды іншыя. Выклікаў фурор амаль гадзінны выступ Змітра Вайцюшкевіча. Лепельцы злёту вывучылі песні-прысвячэнні матулям ды залатым беларускім мужчынам і з задавальненнем падвывалі пад “антыкрызісную”, паводле слоў спевака, песню пра галоднага ваўка.

Гурт “Стары Ольса” ўдзельнічаў у фестывалі на запрашэнне кампаніі “Будзьма беларусамі!”. Сваёй энергічнай музыкай ды актыўнымі заклікамі “Ольсы” здолелі зрабіць неверагоднае – сабралі размораную спёкай публіку ў карагод. Бо, па-першае, як цудоўна ведаюць заўсёдныя фаны сярэднявечных дыскатэк, хто не танчыць – той лось! А па-другое, “сярэднявечныя танцы – гэта ж рытмы маладосці вашага Цмока”! “Давайце ўжо яго разбудзім!” – падбухторваў танцораў Зміцер Сасноўскі.

Танцы затанчылі, песні заспявалі – Цмок хоць і не паказаўся, але, спадзяемся, парадаваўся! Скончылі выступ “Ольсы” атракцыёнам “Пакупайся з Цмокам” і запрасілі ўсіх слухачоў перамясціцца ў возера. Тут хацелася б асобна падзякаваць суполцы вясёлых палачанаў за безумоўную гатоўнасць падтрымаць любыя, нават самыя шалёныя, прапановы!

Цягам усяго фестывальнага дня ва ўрочышчы Цмока працавалі забаўляльныя пляцоўкі для дзяцей і дарослых. Кулінарныя майстры смачна кармілі блінцамі з маслам ды мёдам, сметанковым лепельскім марожаным ды іншымі прысмакамі. А ў даліне майстроў можна было набыць найлепшыя беларускія кніжкі ды нацыянальную вопратку, а таксама павучыцца ў рамеснікаў з Беларусі, Літвы, Расіі і Кітая на разнастайных майстар-класах.

Свята выйшла разнастайным і запамінальным. Зычым Фестывалю “У гасцях у Лепельскага Цмока” і надалей развівацца і прыцягваць гасцей з Беларусі і замежжа і сабраць у наступным годзе яшчэ больш цмоказнаўцаў і цмокалюбаў! Спадзяемся, што паважнае стаўленне да гісторыі горада, яго міфалогіі і крэатыўны падыход стануць узорам для іншых гарадоў і мястэчак Беларусі, багатых на сваіх уласных міфалагічных і рэальных герояў!

*Тэкст – Ліза Неўмяржыцкая, прэс-сакратар кампаніі “Будзьма беларусамі!”*

*Фота – Аляксандр Tarantino Ждановіч*

*Паводле budzma.by*

## БЕЛАРУСЫ НЬЮ-ЁРКА АДЗНАЧЫЛІ ЎГОДКІ АДНАЎЛЕННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ СВЯТОЧНАЙ ІМПРЭЗАЙ

23 жніўня ў Беларускім цэнтры ў Нью-Ёрку на Атлантык-Авеню, 401 адбылася ўрачыстая імпрэза, прысвечаная Дню аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці Беларусі (25.08.1991). У гэты дзень Дэкларацыі аб незалежнасці ад 27 ліпеня 1990 г. быў нададзены статус канстытуцыйнага закона.

Пра падзеі таго часу распавёў Зянон Пазьняк — непасрэдны іх удзельнік, лідар апазіцыі ў Вярхоўным Савеце. Са святам прысутных вітала госця з Канады — старшыня Рады БНР сп. Івонка Сурвілла.

Сп. Галіна Пазьняк па-мастацку пранікнёна задэкламавала патрыятычныя вершы Ларысы Геніюш.

У другой палове імпрэзы адбылася прэзентацыя новых кніг, якія сваёй тэматыкаю непасрэдна звязаныя са святкаваннем і ўдала дапоўнілі ягоную праграму.

Госць з Прагі, журналіст Беларускай рэдакцыі “Радыё Свабода”, намеснік старшыні Рады БНР сп. Сяргей Навумчык прадставіў свае дзве новыя кнігі пра падзеі 1994 і 1995 гадоў у Беларусі, калі аднаўлялася наша дзяржаўнасць і пачыналася станаўленне маладой краіны. Ён таксама быў актыўным удзельнікам тых падзеяў.

Вядучая імпрэзы — старшыня Бруклінскага аддзела БАЗА сп. Таццяна Красоўская дала слова прысутнаму госцю — выбітнаму дзеячу беларускай эміграцыі ў ЗША сп. Вітаўту Кіпелю. Яна адзначыла, што менавіта беларуская эміграцыя захоўвала ў савецкія часы ідэю незалежнасці Беларусі і кожны год святкавала ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года.

Сп. Кіпель прапанаваў увазе прысутных сваю кнігу ўспамінаў “Жыць і дзеіць”, што выйшла сёлета ў Мінску.

Ён падкрэсліў, што галоўны сэнс кнігі і адлюстраванага ў ёй ягонага асабістага жыцця якраз і ёсць гэтая ідэя змагання за незалежнасць Бацькаўшчыны. Усё, што рабіла эміграцыя, было накіравана дзеля таго, каб гэты дзень настаў.

Адмыслова на імпрэзу ў Нью-Ёрк прыехаў рэдактар кнігі, журналіст “Радыё Свабода” Сяргей Шупа, які таксама ўзяў слова і выказаў удзячнасць сп. Кіпелю за ягоную працу і тое, што ўсё гэта цяпер занатавана для гісторыі.

*“Наша Ніва”*

## ПА СЛЯДАХ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА НА ВІЛЕНШЧЫНЕ

Сябры Таварыства беларускай культуры разам з Асацыяцыяй “Крывія” 29 жніўня зладзілі вандроўку на радзіму Ф. Багушэвіча ў в. Свіраны, што на Віленшчыне. Мэта вандроўкі – прывядзенне ў парадак тэрыторыі ля крыжа ў Свіранах, сімвалічным месцы, дзе нарадзіўся патрыярх беларускага адраджэння Францішак Багушэвіч.

Як стала вядома, пасля смерці Юрыя Гіля, які ўсталяваў крыж і апекаваўся захаваннем імя Францішка Багушэвіча ў гэтым рэгіёне, ніхто больш не даглядаў гэтае месца. А для беларусаў варта захаваць гэтыя невялічкія аазісы беларускасці на Віленшчыне, якія сведчаць аб беларускай прысутнасці ў гэтым рэгіёне. Таму Таварыствам беларускай культуры ў Літве і Асацыяцыяй “Крывія” было прынятае рашэнне ўзяць гэтае месца ў апеку з тым, каб і надалей захоўваць памяць беларускага патрыярха.

Важна адзначыць, што імя Багушэвіча ў гэтым рэгіёне не забытае. У суседняй вёсцы Савічуны ёсць вуліца Францішка Багушэвіча, а таксама бібліятэка, якая носіць яго імя. На будынку бібліятэкі на трох мовах усталяваная мемарыяльная шыльда ў гонар песняра.

У самой бібліятэцы ёсць палічка з беларускімі кнігамі і куток, прысвечаны беларускаму паэту. Бібліятэкар Ванда Ермаковіч апякуецца гэтымі матэрыяламі і таксама робіць намаганні, каб мясцовыя жыхары памяталі імя беларускага генія. Падчас нашай сустрэчы для бібліятэкі мы падарылі новыя кнігі на беларускай мове.

У Свіранах мы добраўпарадкавалі тэрыторыю каля крыжа і пафарбавалі літары на мемарыяльнай шыльдзе ў гонар Францішка Багушэвіча, якія ўжо выцвілі і амаль не чыталіся. Неабходна падзякаваць гаспадыні гэтага дома пані Станіславе, якая пагадзілася на тое, каб на сцяне была прымацаваная гэтая шыльда.

Такім чынам, сябрамі Таварыства беларускай культуры ў Літве і Асацыяцыі “Крывія” быў зроблены важны крок па ўвекавечванні памяці песняра ў яго родных мясцінах.

*Інфармацыйная служба ТБК Літвы*

## У КІЕВЕ ЎШАНАВАЛІ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

25 жніўня ў Кіеве каля помніка Тарасу Шаўчэнку адбылося ўшанаванне выдатнай падзеі ў сучаснай гісторыі Беларусі — надання дэкларацыі пра суверэнітэт Беларусі статусу канстытуцыйнага закона 25 жніўня 1991 года.

Старшыня Руху Салідарнасці “Разам” Вячаслаў Сіўчык падзяліўся сваімі ўспамінамі пра гэты пераломны момант гісторыі, а таксама павіншаваў вызваленых палітвязняў.

Пасля кароткага мітынгу ўдзельнікі акцыі накіраваліся да помніка супольнаму герою Беларусі ды Украіны — Міхасю Жызнеўскаму.

*Паўло Зуб’юк, “Радыё Свабода”*

## ВЫЗВАЛЕНЫ ЎСЕ АСУДЖАНЫЯ ПАЛІТВЯЗНІ, У ТЫМ ЛІКУ СТАТКЕВІЧ, ВАСЬКОВІЧ І РУБЦОЎ

Аляксандр Лукашэнка памілаваў Мікалая Статкевіча, Юрыя Рубцова і іншых палітвязняў. Пра гэта паведамляе прэс-служба кіраўніка краіны.

“Зыходзячы з прынцыпу гуманізму, прэзідэнт Беларусі прыняў рашэнне аб памілаванні і вызваленні з месцаў пазбаўлення волі Мікалая Дзядка, Ігара Аліневіча, Мікалая Статкевіча, Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенку, Юрыя Рубцова”, — гаворыцца ў паведамленні.

*Паводле “Нашай Нівы”*

## МЕРАПРЫЕМСТВЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ І БРАЦКАГА ДОМА “КІНАНІЯ”

18–19 жніўня Таварыства беларускай культуры ў Літве і Брацкі дом “Кінанія” (Мінск, Беларусь) правялі шэраг агульных мерапрыемстваў у рамках падпісанага праекта.

18 жніўня ў Доме нацыянальных меншасцяў у Вільні адбылася агульная сустрэча сяброў Таварыства і Брацтва, у часе якога віленчукі і госці з Мінска змаглі бліжэй пазнаёміцца і распрацавалі далейшыя агульныя праекты.

Падчас мерапрыемства з канцэртам выступіла Таццяна Матафонава, якая ўпрыгожыла гэты вечар.

Слухачы настолькі былі прасякнутыя песнямі Таццяны, што ў многіх на вачах былі слёзы.

19 жніўня сябры наведалі Еўфрасіннеўскія могілкі Вільні, дзе ўшанавалі памяць спачываючых там беларускіх дзеячоў.

*Інфармацыйная служба ТБК Літвы*

## У БЕЛЬСКУ ПАДЛЯШСКІМ БОЛЬШ ЗА 700 ДЗЕТАК ВЫВУЧАЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

1 верасня на Падляшшы амаль 150 тысяч вучняў пачало новы навучальны год. У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску Падляшскім сёлета будзе вучыцца 741 вучань.

Кожны з іх будзе вывучаць беларускую мову. "Ніякіх праблемаў з наборам у першыя класы ў нас не было", – кажа намесніца дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім Барбара Скепка: "У пачатковую школу №3 прыйшло 518 вучняў. Усяго ў комплексе школ вучыцца 741 вучань. Прыйшло да нас 125 першакласнікаў. І ў тым ліку – 75 вучняў-шасцігодкаў, і 50 – сямігодкаў".

У гэтым навучальным годзе падляшскіх вучняў чакае 188 дзён навукі ды 100 свабодных дзён.

*Давід Гайко, "Беларускае Радыё Рацыя"*

## МІЖНАРОДНАЯ ЛЕТНЯЯ ШКОЛА БЕЛАРУСІСТЫКІ САБРАЛА Ў МІНСКУ БОЛЬШ ЯК 70 УДЗЕЛЬНІКАЎ З 9 КРАІН

Больш як 70 удзельнікаў з дзевяці краін свету абмеркавалі ў Мінску моўную і культурную спадчыну Беларусі ў час Міжнароднай летняй школы беларусістыкі, якая ўпершыню прайшла з 25 жніўня па 7 верасня ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы (РІВШ), паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Белдзяржуніверсітэта.

Сярод замежных гасцей у рабоце школы ўзялі ўдзел студэнты з Венгрыі, Чэхіі, Германіі, Польшчы, Славакіі, Расіі, Кітая і Японіі. Яны аналізавалі моўную, гістарычную і культурную спадчыну Беларусі ў форме розных камунікацыйных мерапрыемстваў.

У праграме былі заняткі па практыцы беларускага маўлення, а таксама спецыяльныя лекцыйныя курсы па розных аспектах беларускай мовы, гісторыі і культуры. Студэнты былі задзейнічаны ў інтэрактыўных занятках, майстар-класах і адукацыйных экскурсіях.

У цырымоніі летняй школы ўзялі ўдзел рэктар РІВШ Віктар Гайсёнак, прарэктар па вучэбнай рабоце БДУ Аляксей Данільчанка, дэкан філалагічнага факультэта БДУ Іван Роўда і старшыня Беларускага камітэта славістаў Аляксандр Лукашанец.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі кафедра маладзёжнай палітыкі РІВШ і БДУ.

*БелТА*

## БЕЛАРУСКІ СІБІРАК ХОЧА ЗРАБІЦЬ ПАБРАЦІМАМІ ВІЦЕБСК І ІРКУЦК




*Мэр Іркуцка Дзмітры Бердьнікаў і лідар беларускай дыяспары ў Іркуцку Алег Рудакоў*

Руплівец беларускага руху з Сібіры Алег Рудакоў апантаны ідэяй надаць статус гарадоў-пабрацімаў Іркуцку і Віцебску.

Паміж дзвюма мясцінамі гістарычныя повязі вядуцца яшчэ ад пачатку асваення сібірскіх земляў літвінскімі перасяленцамі. Шмат нараджэнцаў Віцебшчыны былі сасланыя на ўсход пасля паўстаньня 1863 года. Некаторыя потым сталі навукоўцамі, вядомымі на ўвесь свет.

Заснавальнік Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, цяпер актывіст моладзевага клуба "Крывічы" Алег Рудакоў сам нарадзіўся на Віцебшчыне і пра збліжэнне паміж гістарычнай радзімай і цяперашнім месцам жыхарства марыць ужо не адзін год: "Першае і самае галоўнае: я гэтую ідэю выношваю ўжо даўно. Насамрэч Віцебск і Іркуцк гістарычна вельмі моцна звязаныя. Трывалая ўзаемаповязь пачалася ў XIX стагоддзі і нават раней. Яшчэ ад XVII стагоддзя вядома пра паселішча каля Усць-Ілімскага астрогу ў Іркуцкай губерні пад назвай Літвінцава. Ёсць звесткі, што гэта былі перасяленцы акурат з Віцебскага рэгіёна. Паколькі ідэнтыфікавалі яны сябе літвінамі, то адпаведна назвалі і новую вёску. На жаль, да сённяшняга дня паселішча не захавалася: калі збудавалі Усць-Ілімскую ГЭС, яно было затопленае, людзі рассяліліся па ўсёй цяперашняй Іркуцкай вобласці. То бок ёсць шэраг рэальных прыкладаў, якія паказваюць гістарычныя сувязі паміж Прыбайкаллем і той жа Віцебшчынай, асобна паміж гарадамі Іркуцкам і Віцебскам. Тут і Ян Чэрскі, і Мікола Віткоўскі — знакамітыя на ўвесь свет навукоўцы. Тут і Маўра Чэрская, якая пасля сьмерці мужа прыехала ў Віцебск, доўгі час жыла ў горадзе (ажно да 1939 года), той дом захаваўся да сёння. І яшчэ шмат-шмат іншых момантаў".

Ян Чэрскі — адзін з самых вядомых даследчыкаў геалагічнай будовы Байкала, паходзіць з маёнтку Свольна Віцебскай губерні. Яго імем названы шэраг геаграфічных аб'ектаў.

Яшчэ адзін прадстаўнік Віцебшчыны — археолаг Мікалай Віткоўскі, ён знайшоў на тэрыторыі Сібіры пахаванні эпохі неаліту, абвергшы думкі пра яе незаселенасць у каменным веку. Не меншыя заслугі перад навукай мае і віцебскі батанік Канстанцін Жэброўскі. Усе яны былі сасланыя ў Сібір за ўдзел у антырасійскім паўстанні 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, але знайшлі ў сабе сілы не толькі не скарыцца, а і заняць пачэснае месца ва ўсясветнай навуцы.

Гэтыя прозвішчы добра вядомыя любому школьніку сібірскага рэгіёна, але мала што кажуць сучасным беларусам. Выправіць такі прыкры стан рэчаў — адна з мэтаў Алега Рудакова.

Спадар Рудакоў адзначае, што ідэя пабрацімства адпачатку нясе ў сабе культурніцкую місію: яна скіраваная на збліжэнне людзей, якія жывуць у розных геаграфічных пунктах. Тым больш што ў дадзеным выпадку такі крок будзе скіраваны на ліквідацыю шэрагу "белых плямаў", за якімі прыхаваныя лёсы незаслужана забытых нараджэнцаў віцебскай зямлі.

На перакананне Алега Рудакова, было б цалкам лагічна, каб на Віцебшчыне паўсталі помнікі знакамітым землякам, а ў Віцебску запрацаваў тэматычны музэй — балазе, адпаведная пляцоўка ўжо ёсць.

*Паводле "Радыё Свабода"*

## ВЫЙШЛА КНІГА ПРА НАЙСТАРЭЙШАГА БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА З БЕЛАСТОКА




У мінскім выдавецтве “Кнігазбор” свет пабачыла новая кніга Сяргея Чыгрына са Слоніма “Мора Віктара Шведа”.

Кніга прысвечана жыццю і творчасці найстарэйшага беларускага паэта з Беластока – Віктара Шведа, які сёлета вясной адзначыў сваё 90-годдзе.

У кнігу ўвайшлі артыкулы аўтара і гутаркі, напісаныя ім у розны час. Яны адлюстроўваюць жыццёвы і творчы шлях Віктара Шведа, які пачынаўся з вёскі Мора Гайнаўскага павета.

Віктар Швед дэбютаваў у 1957 годзе вершам “Я беларус” у беларускім тыднёвіку “Ніва”. Напісаў і апублікаваў некалькі дзесяткаў зборнікаў вершаў на беларускай і польскай мовах. Перакладае з беларускай, рускай, украінскай моў на польскую, з польскай – на беларускую. Пастаянна друкуецца ў беларускім тыднёвіку “Ніва”.

*“Беларускае Радыё Рацыя”*

## АБВЕШЧАНЫЯ ПЕРАМОЖЦЫ КОНКУРСУ “ЭКСЛІБРЫС” ІМЯ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

31 жніўня былі падведзены вынікі штогадовага літаратурнага конкурсу, арганізаванага ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” і прысвечанага сёлета паэзіі і паэтычнаму перакладу. Журы выбрала 10 фіналістаў — 2 лаўрэаты і 8 дыпламантаў.

У журы конкурсу ўваходзілі: Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Іпатава, Наталля Кучмель, Уладзімір Някляеў.

У намінацыі “Паэзія” лаўрэатам стала Валярына Кустава, у намінацыі “Паэтычны пераклад на беларускую мову” — Алесь Емяльянаў-Шыловіч.

Дыпламанты ў намінацыі “Паэзія” (у алфавітным парадку): Яна Мацюшава, Аліса Мініна, Анхела Эспіноса Руіс, Ганна Станіславенка.

Дыпламанты ў намінацыі “Паэтычны пераклад”: Яўгенія Асколкава, Ганна Комар, Аляксей Лабоцкі, Арцём Сітнікаў.

Урачыстая цырымонія ўганаравання пераможцаў адбудзецца 17 верасня ў мінскай галерэі сучаснага мастацтва “Ў” (пр. Незалежнасці, 37а). Пачатак у 18.30. Уваход вольны.

*Прэс-служба ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”*

## ВЫДАДЗІМ ДРУГУЮ КНІГУ ПРА ШЭРЛАКА ХОЛМСА РАЗАМ!

Часопіс “ПрайдзіСвет” запускае краўдфандынгавую кампанію, каб выдаць другую кнігу апавяданняў Артура Конана Дойла пра Шэрлака Холмса па-беларуску, і звяртаецца да сваіх чытачоў.

Дарагія сябры!

Спадзяемся, многія з вас чыталі першую кнігу апавяданняў “Прыгоды Шэрлака Холмса” ў нашым перакладзе. І цяпер мы просім вас ахвяраваць грошы на наступны зборнік — “Нататкі пра Шэрлака Холмса”. Каб зрабіць гэта, трэба перайсці па спасылцы **talaka.by/projects/936/campaign** і выбраць суму ахвяравання.

Увага: па правілах сайта talaka.by вы не ахвяруеце грошы проста цяпер, вы толькі даяце згоду зрабіць гэта. Грошы ў вас папросяць, калі наш праект збярэ дастатковую суму.

Дзе камандзе перакладчыкаў-валанцёраў узяць сродкі на падрыхтоўку макету, паперу, працу друкарні, рэдактараў і карэктараў — вось загадка XXI стагоддзя, якую не пад сілу вырашыць нават легендарнаму дэтэктыву. Таму вы, чытачы, — сёння наша адзіная надзея і апора.

Апавяданні зборніка “The Memoirs of Sherlock Holmes” абеларушваюць для вас пяць перакладчыц з кола “ПрайдзіСвета” — аматаркі класічных дэтэктываў і віктарыянскай Англіі: Ганна Янкута, Алена Казлова, Кацярына Маціеўская, Алена Пятровіч і Марыя Мартысевіч.

*Паводле prajdzisvet.org*

## КАЗКА-РАЗМАЛЁЎКА СТАСІ НАРКЕВІЧ – УЖО Ў КНІГАРНЯХ!




Дзявятым выпускам серыі “Каляровы ровар” Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў стала кніжка-размалёўка Стасі Наркевіч “Як Васілёк выратаваў каралеўства”, якая выйшла ў выдавецтве “Кнігазбор”.

Юнака Васіля ногі самі нясуць у пракаветны лес, аднак зайсці туды не ўдаецца. Птушкі паведамляюць Васілю, што лес атачаны равамі, пасткамі і закляццямі: тут знаходзіцца замак, дзе чарадзеі сцерагуць прынцэсу Дабралетку. Юнак вырашае вызваліць прынцэсу. Што адбылося далей, вы даведаецеся, калі прыдбаеце сабе новую кніжку Стасі Наркевіч, якая ўзначальвае Віцебскае абласное аддзяленне ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”. А каб чытаць яе было яшчэ цікавей, ледзь не кожным развароце кніжкі можна размалёўваць графічныя работы мастачкі Алены Сянько.

З творчасцю Стасі Наркевіч (Анастасіі Лазебнай) чытачы знаёміліся і знаёмяцца праз абласныя і рэспубліканскія сродкі масавай інфармацыі. Некаторыя апавяданні ўвайшлі ў калектыўны зборнік “Дзвіна”. У 2008 годзе выйшаў уласны зборнік апавяданняў “Настальгія” (выдавецтва “Чатыры чвэрці”).

Акрамя апавяданняў, Стася Наркевіч піша вершы, гумарэскі, казкі. У 2012 годзе пабачыла свет яе казка “Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце” ў зборніку аўтарскіх казак “Залаты талер” (выдавецтва “Мастацкая літаратура”), у 2013 годзе кніжка казка-размалёўка “Віялета, бабулечка і чароўны дроцік” (выдавецтва “Чатыры чвэрці”). У гэтым жа годзе выйшла кніга вершаў “Ты зразумей мяне такую…”, аздобленая графічнымі работамі аўтара (Віцебская абласная друкарня).

Кнігу Стасі Наркевіч “Як Васілёк выратаваў каралеўства” можна набыць у кнігарнях Мінска ў аддзелах дзіцячай беларускай літаратуры.

*lit-bel.org*

# БАЙКАЛ – ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ УСЯГО СВЕТУ

Сонечную Беларусь аддзяляюць ад суровай Сібіры тысячы вёрст, гадзінныя і кліматычныя паясы, мова і звычаі, а ў апошнія гады – яшчэ і дзяржаўныя межы. І тым не менш, гэтыя далёкія і непадобныя адзін на аднаго краі здаўна, ледзь не паўтысячы гадоў, звязаныя агульнай крывёю. Ад часоў Ермака Цімафеевіча і да нашых дзён мільёны ўраджэнцаў цёплай і сонечнай Беларусі прамянялі яе, родную – хто сваёй добрай воляй, а хто лютай няволяй – на бязмежныя сібірскія снягі. Многія з гэтых вандроўнікаў, якія перасягнулі палову вялізнага кантынента, дабраліся і да берагоў старога Байкала і яго дачкі Ангары. Тут яны пабудавалі новыя дамы і пачалі новае жыццё. Але пры гэтым захавалі ў сэрцы і сваю Беларусь, а затым беражліва перадалі яе нашчадкам, разам з памяццю і мовай, звычаямі і казкамі. А праз многія гады іх нашчадкі кінулі кліч на ўвесь белы свет, запрашаючы супляменнікаў, дзе б тыя ні жылі сёння, палюбавацца на Святое мора, якое стала іх другой радзімай.

На гэтае запрашэнне з удзячнасцю адгукнулася некалькі дзясяткаў людзей роднай крыві. Дарэчы, у асноўным яго прынялі менавіта тыя, чые бацькі, дзяды і прадзеды таксама калісьці пакінулі сваю гістарычную радзіму ў пошуках лепшай долі. Беларусы з Кубані і з Дона, Анапы, з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Новасібірска і Цюмені... Усе яны ў пачатку жніўня сышліся на беразе праліва, што завецца Байкальскімі варотамі і аддзяляе Малое мора ад Вялікага Байкала, а Вялікую зямлю – ад загадкавай выспы Альхон, азіяцкай святыні, дзе на працягу доўгіх стагоддзяў магла па праве ступаць толькі нага выбранніка духаў – шамана.

Што і казаць, гэтае месца як найлепш падышло для правядзення прыдуманага "новымі сібіракамі" Фестывалю беларусаў свету на Байкале. Калі ўжо ты здолеў захаваць свае карані ў гэтых казачных, нібы не з гэтага свету месцах – значыць, тваёй нацыянальнай ідэнтычнасці ўжо сапраўды нічога не пагражае! І прыезджыя беларусы прыдзірліва экзаменавалі беларусаў байкальскіх.

А яны сустракалі іх усім багаццем сваёй спрадвечнай культуры, шчодра дзяліліся з дарагімі гасцямі спадчынай продкаў, якое здолелі не прамантачыць і не страціць за некалькі пакаленняў. Ансамбль "Варэнічкі" з вёскі Тургенеўка, што была заснавана беларусамі падчас "сталыпінскага перасялення народаў", вітаў дарагіх гасцей на мове танцаў. Гэтыя велічныя па, якія трапілі ў Сібір з Заходняга Палесся сто гадоў таму, выдатна прыжыліся тут за гэты час. Іх ужо даўным-даўно асвоілі нават бураты – спрадвечныя жыхары гэтых месцаў.

Аднак аднымі танцамі сыты не будзеш, і прывезлі з сваёй беларускабурацкай вёскі яшчэ і смятану – ды такую густую, што змучаныя супермаркетамі гараджане цалкам маглі б зблытаць яе з маслам. А вось бульба на тургенеўскіх гародах яшчэ не саспела – пра яе паклапаціліся беларусы з Іркуцка, дзе клімат мякчэйшы, а ўраджай паспявае крыху раней. Вось і выдатна – значыць, сёння будуць дранікі!

Неяк само атрымалася, што адказнай за дранікі аказалася Алена Сіпакова, чые прабабуля і прадзядуля з двума маленькімі дзеткамі ў 1930-я гады прыехалі ў вёску Новамяцёлкіна Заларынскага раёна – яна была заснавана беларусамі з папярэдняй, той самай "сталыпінскай хвалі". Алена – вялікі чалавек, паважаны і мясцовымі, і прыезджымі супляменнікамі. Яна старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Я.Д. Чэрскага – менавіта гэтая арганізацыі і арганізавала Фестываль на Байкале.

Алесь Камоцкі на Байкал прыехаў з самага сэрца гістарычнай радзімы – музыкант жыве і творыць у Мінску. Яго візіт аказаўся для землякоў казачным падарункам, а дакладней – сапраўдным святам даўжынёю ў тыдзень: кожны вечар на другім паверсе Байкальскай турбазы праходзілі яго камерныя, жывыя і цёплыя канцэрты.

У гэтыя дні беларускі музыка пасапраўднаму шчаслівы: родная мова гучыць на берагах возера, якое ўразіла яго да глыбіні душы.

"Гэта сапраўдны цуд!" – захапляецца ён Святым морам. І захапляецца не проста так, а з усім запалам сваёй творчай натуры: Алесь ужо пачаў перакладаць на родную мову словы старадаўняга хіта, прысвечанага яго новаму сябру – "Слаўнае мора, святы Байкал".

Зрэшты, у ролі перакладчыкаў у гэтыя дні папрацавалі амаль усе ўдзельнікі Фестывалю. Іх агульны праект – агучыць на беларускай мове папулярны ва ўсім свеце англійскі мультфільм "Праклён трусапярэваратня". Ініцыятар гэтай задумы – іркуцянін Аляксей Кухта, ужо мае такі досвед. Сваю першую кінаагучку ён начытвае, схаваўшыся ад староннягa шуму пад коўдрай – атрымалася, вядома, не шэдэўральна, але для першага разу вельмі нават нічога.

Фестываль праходзіў у павольнай і разняволенай абстаноўцы: экскурсіі па Байкале змяняліся зямляцкімі вячоркамі, а канцэрты Алеся Камоцкага – займальнымі майстар-класамі, тэмай якіх сталі спрадвечныя беларускія промыслы. Бо сапраўдная дружба заражаецца менавіта так – няспешна. А калі пасябраваць хочуць землякі, хоць і раскіданыя па велізарным кантыненце, – поспех гарантаваны.

*Паводле Ігара Алексіна*

# У ПРЫБАЙКАЛЛІ З'ЯВІЛАСЯ ШЫЛЬДА Ў ГОНАР БЕЛАРУСКІХ ССЫЛЬНЫХ

Намаганнямі актывістаў Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага на адной з вяршыняў горнае сістэмы Хамар-Дабан у Прыбайкаллі з'явілася шыльда ў гонар сасланых у Сібір удзельнікаў Паўстання 1863 г. і асабіста аднаго з іх – Яна Чэрскага.

Шыльда была ўсталяваная падчас традыцыйнага паходу беларусаў Іркуцка на пік Чэрскага – адну з найвышэйшых кропак хрыбту Хамар-Дабан і аднаго з папулярных турыстычных маршрутаў Прыбайкалля. Паход быў прымеркаваны да 170-годдзя славутага даследчыка і прайшоў ужо трэці раз – першы паход адбыўся 10 гадоў таму, другі – 5 гадоў.

У тэксце шыльды на дзвюх мовах – рускай і беларускай – згадваюцца Паўстанне, высылка асуджаных на катаргу ўдзельнікаў, іхны ўплыў на жыццё Сібіры, а таксама асноўныя факты з біяграфіі Чэрскага. Побач месціцца ягоны партрэт, паўстанцкі герб і схематычныя выявы, якія адлюстроўваюць лёс навукоўца – ад паўстанцкае зброі да навуковых дасягненняў.

Паход адбыўся 11–14 жніўня, адразу па заканчэнні Фестывалю беларусаў свету на Байкале 3–9 жніўня.

*Аляксей Кухта*



# У ЛОНДАНЕ З НАЙВЫШЭЙШЫХ ПАЛІЦ ЗДЫМАЮЦЬ ПАДРУЧНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Сёлета 8 жніўня споўнілася б 89 гадоў аднаму з самых вядомых беларусаў у эміграцыі – айцу Аляксандру Надсану. Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў у замежжы быў надзвычай шматгранная асобай: займаўся перакладамі літургічных тэкстаў, пісаў кнігі па гісторыі, рэдагаваў беларускія часопісы, быў заснавальнікам музея і бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, кіраваў Беларускай каталіцкай місіяй у Лондане, займаўся дабрачыннасцю, дапамагаючы ахвярам аварыі ў Чарнобылі і гэтак далей.*

*Ці справа айца Аляксандра мае працяг пасля ягонай смерці? Belsat.eu паразмаўляў з сакратаром апякунскай рады Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны, спадаром Ігарам Івановым.*

**– Чым жыве Беларуская бібліятэка і музей у Лондане пасля спачыну айца Аляксандра Надсана? Хто апякуецца гэтымі ўстановамі?**

– Беларуская бібліятэка ў Лондане як ніколі жывая. Смерць айца Аляксандра Надсана, аднаго з ейных заснавальнікаў, была вельмі сумным ударам для шмат каго, але таксама стала заклікам не апускаць рукі, а руплівa працягваць працу. Гісторыю бібліятэкі справядліва звязваюць перадусім з асобай айца Аляксандра. Ён жа, у сваю чаргу, падкрэсліваў, што яна існуе дзякуючы шчодрасці і добрай волі шматлікіх беларусаў і нашых сяброў іншых нацыянальнасцяў ва ўсім свеце. Грошы на стварэнне Скарынаўкі збіралі ў шмат якіх краінах, калекцыю ў музеі стварылі падобна – айцец Аляксандр два разы аб'ехаў вакол свету, наведваючы беларусаў на чужыне, адкуль вяртаўся не з пустымі рукамі. Таксама карысталіся ёй людзі з дзясяткаў краінаў. Яшчэ пры айцу бібліятэка – як зарэгістраваная дабрачынная арганізацыя – кіравалася апякунскай радай, што прынесла ў ейную дзейнасць стабільнасць і пераемнасці. Сёння ў радзе – абазнаныя ў справе беларусы і брытанцы, якія з ахвотай прысвячаюць свой час бібліятэцы. Ёсць і валанцёры, якія дапамагаюць – без іх багата чаго не атрымалася б.

**– Хто перадусім карыстаецца зборамі бібліятэкі – беларускія эмігранты ці брытанцы? Які яе тыповы наведнік?**

– Напачатку бібліятэка стваралася як акадэмічная ўстанова. Лондан тады быў адным з цэнтраў славяназнаўства, на што брытанскі ўрад выдзяляў універсітэтам вялікія сродкі – гэта быў час халоднай вайны. Скарынаўка своечасова адкрыла свае дзверы, каб падтрымаць, дакладней нават – стварыць цікавасць да беларусазнаўства. І не толькі ў Брытаніі: манаграфіі, напісаныя на падставе матэрыялаў бібліятэкі выходзілі ў Нямеччыне, Польшчы, ЗША, Канадзе, Ізраілі – поўны пералік краінаў будзе доўгі. А дадаць яшчэ артыкулы ў акадэмічных часопісах... І ўсё гэта – без капейкі дзяржаўных ці карпаратыўных грошай.

Цяпер геапалітычныя прыярытэты ў свеце другія, тэхналогіі змяніліся, беларуская дыяспара ў Брытаніі – цалкам новая. Таму і Скарынаўская бібліятэка сёння іншая. Яна патрэбная і навукоўцам з усяго свету, як і раней, і тутэйшым беларусам, хто не хоча траціць повязі са сваёй культурай, і звычайным брытанцам, хто шукае ўцямную інфармацыю пра нашую "тэра інкогніта". Раней бібліятэку можна было наведаць толькі па папярэдняй дамоўленасці з айцом Аляксандрам. Сёння яна адкрытая кожную суботу, і кожную суботу ёсць наведнікі. Тыповыя карыстальнікі – гэта студэнты-беларусы, якія ў сваіх працах звяртаюцца да беларускіх тэмаў, напрыклад, рэлігійных узаемаадносінаў або гісторыі дойлідства. Здавалася б, ну чаго толькі няма ў інтэрнэце цяпер, а вось, аказваецца, каб капнуць глыбей, часта мусіш да кніжак звяртацца або ў архівах папрацаваць. І прафесійныя даследчыкі прыязджаюць, і тыя, хто развівае свае асабістыя інтарэсы ў нейкіх галінах – музыка або біблейскія пераклады, напрыклад. Нехта прыходзіць на пару гадзінаў, іншыя прыязджаюць на тыдзень. Беларусы таксама прыходзяць і прыводзяць сваіх сяброў – брытанскіх і заморскіх – дзеля музея: тыя ж слуцкія паясы варта пабачыць, ці патрымаць лагерную робу Ларысы Геніюш, ці ў аўтэнтычныя кашулі, вышываныя 70 гадоў таму, апрануцца.

**– Ці папаўняюцца бібліятэчныя зборы? Ці бібліятэка расце?**

– Калісьці бібліятэка скупала практычна ўсё, што выдавалася на Беларусі і пра Беларусь у заходнім свеце. Цяпер гэта ўжо немагчыма ды і няма патрэбы ў такой вось "Нацыяналцы дыяспары". Аднак усё асноўнае, пра што карыстальнікі звычайна запытваюцца, да нас трапляе: частку мы купляем, шмат што дораць самі аўтары і выдаўцы. Калекцыя выданняў дыяспары ў нас самая поўная ў свеце і гэта застаецца адным з прыярытэтаў – захаванне спадчыны суайчыннікаў у замежжы.

**– Ці здараліся ў бібліятэцы апошнім часам нейкія цікавыя адкрыцці?**

– Я часта здзіўляюся запытам і таму, што чытачы знаходзяць у нас на паліцах і ў архіўных скрынях. Днямі папрасілі пра старыя школьныя падручнікі па беларускай мове. Я шчыра думаў, што гэта ніколі не спатрэбіцца тут і запхнуў іх на самую высокую паліцу ў кнігасховішчы. Цяпер давядзецца здымаць, каб даследчык мог дазнацца, якія творы Янкі Брыля нам казалі чытаць у дзяцінстве. А ў мінулым месяцы навуковец з віленскага ЕГУ з захапленнем працаваў з франкамоўнай беларусістыкай, збор якой у нас больш поўны, чым у Беларусі. Даследчыца гісторыі з Кембрыджскага ўніверсітэта запыталася пра магчымасць папрацаваць з нядаўна выдадзенай у Ізраілі манаграфіяй пра цэнзуру ў паваеннай БССР. Здавалася б, Кембрыджскі ўніверсітэт мусіць мець усё, але аказалася, што на дадзены момант найбліжэйшая бібліятэка з такой кнігай – у Варшаве. Нам жа асобнік даслаў аўтар, які неаднаразова карыстаўся гасціннасцю Скарынаўкі і айца Аляксандра Надсана. І так без перапынку!

**– Ці вядуцца ў бібліятэцы працы па ўпарадкаванні, далейшым апісанні збораў, інфарматызацыі?**

– Працы наперадзе – нямерана. Бібліятэка пакуль не стварыла поўнага каталога сваіх збораў – гэта бадай самая сур'ёзная перашкода для паўнавартаснага карыстання яе калекцыяй. Архіў слаба сістэматызаваны, і мы нават самі да канца не ведаем, якія перліны яшчэ там знойдуцца. Музейная прастора магла б нашмат лепш прадставіць багацці калекцыі. Нічога гэтага сіламі валанцёраў не зробіш, таму мы збіраем сродкі і на Захадзе, і ў Беларусі. Але грошы таксама не вырашаюць усяго. Патрэбныя яшчэ веды і прафесіяналы, што ва ўмовах параўнальна невялікай дыяспары – вялікая праблема. Таму мы наладжваем супрацу з арганізацыямі і ініцыятывамі ў Беларусі – "Беларускай палічкай" і культурніцкай кампаніяй "Будзьма беларусамі", напрыклад. Плён такіх праектаў ужо хутка можна будзе пабачыць: і аблічбаваныя публікацыі, і новыя пераклады.

*Паводле Віктара Шукеловіча, "Белсат"*

# ПАМЁР АЛЯКСЕЙ КАРОЛЬ




У суботу, 12 верасня 2015 года, не стала Аляксея Караля – аднаго з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", шматгадовага сябра Управы і Рады Згуртавання. Аляксей Кароль быў гісторыкам, палітолагам, галоўным рэдактарам газеты "Новы Час".

Яму было 70 гадоў. Апошні год сп. Аляксей змагаўся з ракам лёгкіх, але працягваў актыўна працаваць і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці Беларусі.

Сёлета пабачыў свет аўтарскі дакументальны фільм Аляксея Караля "1990-я: Як гэта было, і які шлях мы не прайшлі".

Апошнія тры месяцы сп. Кароль правёў у коле сям'і сына ў Сінгапуры, дзе праходзіў курс лячэння. Адышоў ён дома, у сне. Прах Аляксея Караля будзе пахаваны ў Мінску.

***Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" глыбока смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сям'і, сябрам і калегам Аляксея Караля. Няхай будзе вечная і светлая памяць ягонаму імені, а душа яго спачывае з мірам.***

НАВІНЫ

# ЗУБРЫ І ЗУБРАНЯТЫ. 11 ХІТОЎ БЕЛАРУСКАГА РОКУ АД "25 АБ-БА АРКЕСТРУ"

Беластоцкае аб'яднанне "АБ-БА" існуе 10 гадоў ды мае на мэце дапамогу дзецям і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, а таксама падтрымку бацькоў і настаўнікаў. Менавіта сябры "АБ-БА" сабралі летась разам 25 вучняў беластоцкай пачатковай школы №4, музыкаў пад кіраўніцтвам Паўла Азяблы ды беларускіх спевакоў, каб у такі манер павіншаваць фестываль музыкі маладой Беларусі "Басовішча" з 25-годдзем.

"Многія з нас былі арганізатарамі ў першыя гады існавання фестывалю. Зараз "Басовішча" робіць пакаленне нашых дзяцей, сярод якіх і нашыя ўласныя, – кажа каардынатар праекту Бася Пякарская. –Таму мы палічылі вельмі патрэбным такім чынам аб'яднаць пакаленні".

Дзеля стварэння складанкі сабралася цэлая каманда. Музыка і мастак Юрка Асеннік згенераваў ідэю, настаўніца беларускай мовы ў пачатковай школе № 4 у Беластоку Аліна Ваўранюк падрыхтавала дзетак да канцэрту, а журналістка Кацярына Жамчужнікава працавала з дзецьмі падчас запісу. Ролю мастацкага кіраўніка ўзяў на сябе Лявон Вольскі.

"Праца ішла весела ды нязмушана, бо гэта ж дзеці, – кажа Лявон Вольскі. – Я некалькі разоў прыязджаў у Беласток на рэпетыцыі цягам года. Спецыфіка працы гэткая, што трэба за дзве гадзіны зрабіць усё магчымае, бо потым дзеці стамляюцца і ўжо кепска рэагуюць на бізун і пернік. А наогул, гэта досыць высокі ўзровень мастацтва – калі дзіцячы хор на сцэне пяе разам з харызматычным Хрыстафорам: "Чарнабыль, радыяцыя, памірае наша нацыя", а ты раптам разумееш, што, насуперак прагнозам, за апошнія 25 гадоў нацыя не памерла. Яна жыве таксама ў гэтых беластоцкіх дзетках, якія старанна выводзяць кранальнымі галасамі: "Вось мая зямля пад нагой бяжыць, вось мая зямля ў снягох ляжыць…".

Жывая прэм'ера праекту адбылася на фэсце "Басовішча-2014", аўдыёверсія альбома ў інтэрнэце ўпершыню прэзентуецца на Tuzin.fm

*Паводле tuzin.fm*

# ПОЛЬСКІ ЛІНГВІСТ: МНОГІЯ ПАЛЯКІ ВІЛЕНШЧЫНЫ РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

У Літве на Віленшчыне жыве шмат людзей, якія лічаць сябе палякамі, але размаўляюць пры гэтым "па-просту". Пра гэта заявіў польскі лінгвіст Міраслаў Янковяк. "Я беларусіст і ведаю беларускую дыялекталогію, і "простая мова" для мяне з'яўляецца сінонімам беларускай", – адзначыў ён.

Міраслаў Янковяк адзначыў, што ў розных мясцовасцях Віленшчыны людзі размаўляюць па-рознаму. Так, у Падброддзі, Няменчыне і Свянцянах дамінуе польская мова, а найбольш беларускімі з'яўляюцца Дзевянішкі і іншыя памежныя з Беларуссю раёны.

"Што цікава, аўтар першай граматыкі беларускай мовы Браніслаў Тарашкевіч паходзіў з-пад Лаварышак, і можна казаць, што яго гаворка, ці яго "простая мова", стала ў вялікай ступені падставай для кадыфікацыі беларускай літаратурнай мовы", – дадаў лінгвіст.

Міраслаў Янковяк адзначыў, што 90% яго суразмоўцаў называлі сябе палякамі, віленскімі палякамі ці "пілсудскімі палякамі". Пры гэтым ён дадаў, што з аповедаў мясцовых людзей вынікае, што "па-просту" людзі тут размаўлялі прынамсі з другой паловы XIX стагоддзя.

"Цяжка сказаць, ці гэта беларусы, якія спаланізаваліся, ці палякі, якія трапілі пад беларусізацыю, ці літоўцы, якія спачатку беларусізаваліся, а потым паланізаваліся. Гэта пытанне для гісторыкаў. Трэба было б таксама даследаваць гісторыю кожнай сям'і, кожнага чалавека. Маўленчая гісторыя, ці памяць маіх суразмоўцаў, сягае канца XIX стагоддзя. Як лінгвіст я далей не магу сягаць", – заявіў супрацоўнік Польскай акадэміі навук.

Само ж існаванне беларускай мовы ў Літве навуковец назваў феноменам, бо паводле розных моўных тэорый беларускія гаворкі мусілі знікнуць за дзясяткі год паланізацыі, дзвесце гадоў русіфікацыі, а пазней і літуанізацыі. "Але маем XXI стагоддзе, стагоддзе глабалізацыі, бярэм дыктафон, ідзем у вёску і маем паўсюль чыстую беларускую гаворку з добра захаванай структурай. Мяркую, што ў значнай ступені гэта вынікае з таго, што мова гэтая, добра зразумелая іншымі народнасцямі, з'яўляецца вельмі добрым сродкам камунікацыі", – падкрэсліў лінгвіст.

*krynica.info*

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (160), жнівень 2015

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава.
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская.
Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27